


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

8 лістапада 2002 года

№ 45 (394)
Выходзіць па пятніцах

Плюс Тэлетыдзень

## Навіны рэгіёна

### Умацуем Барысаўшчыну

**МАЛАДЗЕЧНА.** Першы намеснік старшыні Маладзечанскага райвыканкома **Міхаіл Прыбалавец** узначаліць Барысаўскі райвыканком.

Прэзідэнт даў згоду на прызначэнне М. Прыбалаўца. Новага старшыню павінныя зацвердзіць дэпутаты Барысаўскага райсавета. Пераемніка М. Прыбалаўца ў Маладзечне да моманту выхаду газеты не прызначылі.

Юрый КАРПІЦКІ.

### Новая кацельня

**ВАЛОЖЫН.** У Гародзькаўскай урачэбнай амбулаторыі з'явілася новая кацельня.

Раней у амбулаторыі было халаднавата, бо яна ацяплялася ад школьнай кацельні, магутнасці якой было недастаткова. Новую кацельню зрабілі з дапамогай сродкаў, якія Валожынскае РТМА атрымала ад фонду рэспубліканскай праграмы "Энергазберажэнне".

Наталля ШТЭЙНЕР.

### Смерць у сне

**ВІЛЕЙКА.** Цесць зарэзаў свайго 26-гадовага зяця, калі той спаў.

У кватэры жылі маладая сям'я з малым дзіцем і жончыны бацькі. Усе разам пайшлі на адну гулянку. Цесць вярнуўся п'яным. Зяць быў цвярозым. Забіў яго цесць увечары.

Узбуджана крымінальная справа. Вядзецца следства.

Марыя МІКАЛАЕВА.

### Жыхар Вілейкі засвяціўся на наркотыках

**МЯДЗЕЛ.** У канцы кастрычніка у летнім доміку ў вёсцы Малая Сырмеж (непадалёку ад Купы) знайшлі пакет з высушанымі галоўкамі маку, інгрэдыентамі для вытворчасці наркотыка. Дом належыць жыхару Вілейкі. Вядзецца следства.

Алесь ВЫСОЦКІ.

### Банкіры заспявалі

**АШМЯНЫ, СМАРГОНЬ.** Зборная Гродзенскай вобласці выйграла Гран-пры на рэспубліканскім аглядзе-конкурсе сярод калектываў мастацкай творчасці аддзяленняў "Беларусбанка".

У склад пераможцаў увайшлі работнікі Ашмянскіх і Смаргонскіх раённых аддзяленняў банка. Конкурс прайшоў 2 лістапада ў Мінску і быў прысвечаны 80-годдзю з дня заснавання "Беларусбанка". Зборная Мінскай вобласці заняла першае месца.

Ірына РАБУШКА.

# Будзе «Моцнае пачуццё»



5 лістапада. Вялікая зала Маладзечанскага Палаца культуры. За імгненне да пачатку ўрачыстасці.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

## Лепшыя маладзечанскія работнікі культуры 2002 года атрымалі прэміі ад гарвыканкома

**МАЛАДЗЕЧНА. У аўторак у гарадскім Палацы культуры прайшло свята, прысвечанае 85-годдзю з дня Кастрычніцкай рэвалюцыі.**

Падчас свята ўшанавалі лепшых работнікаў культуры года. Узнагароду атрымаў і старшыня Маладзечанскага гарвыканкома **Мікалай Чурсін** – нагрудны знак яму ўручыў міністр культуры Леанід Гуляка. Мінскі абласны драматычны тэатр атрымаў грант ад гарвыканкома ў 5 мільёнаў рублёў на пастаноўку спектакля "Моцнае пачуццё". Астатнія лаўрэаты разам з дыпломамі прынеслі дадому канверты з прэміяй.

Пасля быў канцэрт у выкананні салістаў дзяржаўнага сімфанічнага аркестра пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга. Яны выступалі з праграмай папулярных расійскіх мелодый. Зал быў поўным. Не абышлося без надзвычайнага становішча – патухла галоўная свяцільня, але праз 20 хвілін няспраўнасць выправілі.

Аддзел інфармацыі "РГ".

**Лаўрэаты 2002 года**

**Клубны работнік года** – кіраўнік дзіцячай цыркавой студыі "Мара" пры Доме культуры чыгуначнікаў Святлана Юрлава.

**Кіраўнік творчага калектыву 2002 года** – кіраўнік і дырыжор аркестра народных інструментаў музычнага вучылішча Тамара Бялькова.

**Бібліятэкар года** – загадчыца бібліятэкі сямейнага чытання "Верасок" Марыя Кінкель.

**Мастак года** – Аляксандр Пясецкі.

**Народны майстар года** – удзельніца народнага клубнага аб'яднання "Майстар" Палаца культуры Ала Стэльмах.

**Выкладчык года** – выкладчык дзіцячай музычнай школы Міхаіл Таўгень.

### Вечар памяці Храмцова



4 лістапада музыканту і педагогу Міхаілу Храмцову споўнілася б 60. Яго добра ведалі ў Вілейцы і Маладзечне.

2-я старонка

### Аліменты плацяць збожжам



Калгас "Лоск", што на Валожыншчыне, не можа выплаціць зарплату з чэрвеня. Былой жонцы калгасніка прапануюць узяць аліменты збожжам.

4-я старонка

### Радавое дрэва Рушчыцаў



Наш зямляк мастак Фердынанд Рушчыц нарадзіўся ў Багданаве, вучыўся ў Мінску і Пецярбургу, жыў у Вільні. Дзеці жывуць і працуюць у Польшчы.

5-я старонка

■ КОНКУРС

# Нам было не да абеду

**МАЛАДЗЕЧНА. У панядзелак і аўторак на базе СШ №6 прайшоў гарадскі конкурс юных інспектараў руху. Удзельнічалі ўсе школы горада.**

У першы дзень конкурсу дзеці хадзілі строем і спявалі песні. Потым спаборнічалі ў тэарэтычных ведах па правілах дарожнага руху, фігурным і практычным ваджэнні веласіпеда, зборцы і разборцы яго, а таксама даўрачэбнай дапамозе. Каля 7 гадзін дзеці правялі на вуліцы. І паабедаць не было калі.

Найцяжэй дзецям даваліся правілы дарожнага руху. Гэта ж не сабраць і разабраць веласіпед. На другі дзень быў конкурс мастацкай самадзейнасці і сценгазет.

Каманда СШ №6 заняла 3-е месца, СШ №5 – 2-е, беларуская гімназія – 1-е. Каманды атрымалі па торту, наручныя гадзіннікі за 1-е месца і 3 тысячы кожнаму гульцу за 2-е і 3-е месцы.

**Ірына РАБУШКА.**



Апошнія хвіліны перад пачаткам конкурсу юных інспектараў дарожнага руху. Фота Ірыны РАБУШКІ.

■ ШМАТМОЎЕ

## Валожынцы гавораць па-польску

**ВАЛОЖЫН. У мінулыя выхадныя ў Мінску ў абласным Доме беларуска-польскай дружбы адбыўся конкурс чытальнікаў-дэкламатараў "Крэсы".**

Выступоўцы падзяліліся на тры ўзроставыя групы: дзеці, моладзь і дарослыя.

Валожыншчыну прадстаўлялі вучні Вішнеўскай сярэдняй школы, у якой выкладаюць польскую мову каля 10 гадоў.

У першай групе выступіў трэцякласнік **Пеця Яцына**. Ён трапіў у дзесятку лепшых. У другой шасцікласніца **Юля Трубач** заняла 4-е месца. Сярод моладзі была лепшай выпускніца Вішнеўскай школы, студэнтка-першакурсніца педуніверсітэта імя М.Танка **Таццяна Дубіцкая**. Яна падзяліла 1-е месца з дэкламатарам з Дзяржынска.

Заўтра Таццяна будзе ўдзельнічаць у рэспубліканскім конкурсе ў Гродне.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

■ ПРЭЗЕНТАЦЫІ

# Паэты Вілейшчыны пра родную зямлю

**ВІЛЕЙКА. 30 кастрычніка ў зале выставак Вілейскага гісторыка-краязнаўчага музея адбылася прэзентацыя літаратурна-мастацкага зборніка "Родная бацькоўская зямля" і адкрыццё аднайменнай персанальнай выстаўкі мастака Уладзіміра Лукшы, які праілюстраваў выданне.**

Падчас мерапрыемства выступалі ўсе, хто меў дачыненне да выхаду зборніка: арганізатары, паэты, фундатары. Паэты распавядалі пра сваю творчасць, праблемы і поспехі. Паэт, член саюза пісьменнікаў Беларусі Іван Лашутка выказаў шкадаванні з малога накладу кнігі. У выкананні Таццяны Захарыч, Сяргея Шкурдзе, Аляксандра Высоцкага гучалі песні на вершы са зборніка. Вялі прэзентацыю Сяргей Паўлоўскі і Віктар Кажура.

Зборнік "Родная бацькоўская зямля" стаў дваццаць першай па ліку кнігай, якую напоўнілі малюнкі Уладзіміра Лукшы. Усе яны паказваюць краявіды бацькоўскай зямлі.

На адкрытай выстаўцы больш за 40 работ мастака.

Уладзімір Лукша збіраецца напісаць серыю малюнкаў, прысвечаных Маладзечну.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

■ ЗВАРОТ ТБМ

# Падпішыся на «РГ»

**Таварыства беларускай мовы выступіла з заклікам падпісацца на беларускамоўныя выданні. Сярод адзінаццаці выданняў, названых у звароце, і наша газета:**

"БЕЛАРУСКУЮ ГАЗЕТУ – У КОЖНУЮ СЯМ"Ю

Таварыства беларускай мовы звяртаецца да грамадзян краіны з прапановай актыўна падпісацца з новага, 2003 года на беларускамоўныя газеты і часопісы. Хай мілагучнае роднае слова прыйдзе ў кожны дом, у кожную сям'ю з цікавай і патрэбнай інфармацыяй.

Падпішыцеся на беларускае,
і вы сцвердзіце сваю грамадзянскую пазіцыю,
адчуеце сябе носьбітам нацыянальнай культуры,
глыбей зразумееце духоўную сутнасць свайго народа і самога сябе,
падтрымаеце сваё, роднае.

Выбірайце, калі ласка, на свой густ: «Звязда», «Новы Час», «ЛіМ», «Культура», «Бярозка», «Вясёлка», «Несцерка», «Лесавік», «Рэгіянальная газета», «Наша слова», «Раніца», «Голас Радзімы», «Наша Ніва», «Настаўніцкая газета», «Вожык», «Маладосць», «Полымя», «Роднае слова», «Спадчына», «Крыніца», «Беларускі гістарычны».

Беларускае выданне – ваш беларускі суразмоўца!

Выбірайце і падпісвайцеся!"

■ ПАМЯЦЬ

# Міхаіла Храмцова памятаюць

**ВІЛЕЙКА. Гэтага чалавека добра ведалі ў Маладзечне, Вілейцы, Лідзе. 4 лістапада музыканту, педагогу Міхаілу Храмцову споўнілася б 60. У аўторак у канцэртнай зале Вілейскай школы мастацтваў адбыўся вечар-канцэрт "Жывая музыка душы...", прысвечаны памяці Міхаіла Андрэевіча Храмцова.**

Міхаіл Храмцоў нарадзіўся ў вёсцы Рыбчына, якая знікла пасля стварэння Вілейскага вадасховішча. У сям'і быў апошнім, сёмым дзіцем.

У 1967-м годзе выдатна закончыў Маладзечанскае музычнае вучылішча. Падчас вучобы ў Маскоўскім музычна-педагагічным інстытуце імя Гнесіных у 1969 – 71 гг. служыў ва Узорным ваенным аркестры ганаровай варты. З 1972 па 1975 працаваў у Пскове, а потым служыў у Чэхаславакіі ў ваенным аркестры Штаба цэнтральнай групы войск. З 1977 па 1983 працаваў у Лідскім музычным вучылішчы. У 1983 прыехаў у Маладзечна, а ў 1987 вярнуўся на Вілейскую зямлю.

У 1984-м годзе Міхаіл Храмцоў разам з Сяргеем Шпадаруком атрымалі Дыплом першай ступені на рэспубліканскім конкурсе метадычных і творчых работ выкладчыкаў дзіцячых музычных школ.



Міхаіл Храмцоў з любімым інструментам валторнай. Архіў «РГ».

Памёр М.А. Храмцоў у 1990-м пасля хірургічнай аперацыі.

На вечарыну прыйшлі сваякі музыканта, ягоныя калегі, вучні, прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі. Былі госці з Маладзечна і Ліды, дзе яму даваласа працаваць.

Ідэя правядзення вечара-канцэрта належала старэйшай дачцэ М.А. Храмцова Вользе. Вялікую работу па падрыхтоўцы і вядзенні вечара ўзяла дырэктар цэнтра эстэтычнага выхавання Таццяна Захарыч.

Успаміны сваякоў і калег М. Храмцова чаргаваліся выступленнямі музыкантаў.

Пра жыццёвы шлях расказаў родны брат **Віталь Храмцоў**. Шмат цёплых слоў пра бацьку і мужа сказалі дочкі Вольга і Ганна, удава Людміла, успаміналі яго пляменніца **Святлана Ражко**, калегі і сябры. Пра М. Храмцова ўзгадваў яго настаўнік у Маладзечанскім музычным вучылішчы **Іван Сушкевіч**. Яны ўвесь час кантактавалі паміж сабой.

Дырэктар Лідскага музычнага вучылішча Канстанцін Сцяпанаў ахарактарызаваў М. Храмцова як нешматслоўнага чалавека, з якім было катастрафічна цяжка іграць і які не любіў падпарадкоўвацца ідэалагічным цыркулярам. Паэт **Іван Лашутка** прысвяціў памяці музыканта некалькі сваіх вершаў. **Фёдар Гур**, з якім М.Храмцоў стаяў ля вытокаў Вілейскага духавога аркестра, назваў яго чалавекам, які фанатычна любіў духавую музыку. Вялікія намаганні М. Храмцоў прыклаў для стварэння матэрыяльна-тэхнічнай базы Вілейскага духавога аркестра. Гэты калектыў летась адзначыў 10 год. За гэты час ён стаў, па словах малодшай дачкі Ганны, візітоўкай горада.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

# Абяцанкі-цацанкі



Навучэнцы і студэнты штогод едуць на бульбу. Але з кожным разам калгасам разлічвацца за работу ўсю цяжэй і цяжэй. Фота IREX/ProMedia.

## Кааператыў «Селеўцы» не можа выплаціць навучэнцам ПТВ-87 грошы за сабраную бульбу

**МАЛАДЗЕЧНА. Сельскагаспадарчы вытворчы кааператыў "Селеўцы" больш за месяц не можа выплаціць навучэнцам ПТВ-87 грошы за ўборку бульбы.**

З 5 верасня па 5 кастрычніка навучэнцы 24-й групы ездзілі ў калгас на бульбу. Назбіралі 256 тон, зарабілі 4,5 мільёна рублёў. У сярэднім на чалавека атрымалася каля 160 тысяч рублёў.

Майстар групы **Наталля Зяновіч** сказала, што кааператыў павінен разлічыцца не пазней, чым за 10 дзён пасля заканчэння работ. У канцы кастрычніка звярнуліся ў калгас – цішыня. Няма грошай. На мінулым тыдні старшыня кааператыва **Уладзімір Карась** прыехаў у вучылішча. Ён прапанаваў 3,5 мільёна заплаціць грашамі, а мільён узяць з гармалзавода, бо ён вінаваты кааператыву. Гармалзавод можа разлічыцца з навучэнцамі глазураванымі сыркамі ці кісламалочным напіткам "Радужным". Атрымаецца на кожнага 35 літровых пакетаў "Радужнага", ці 140 глазураваных сыркоў.

Гэты варыянт не задавальняе навучэнцаў. Яны хацелі б атрымаць грошы за сваю работу. Якасную работу, бо галоўны аграном кожны дзень у сваіх даведках адзначаў, што работа выкананая добра. Калі на наступным тыдні кааператыў не разлічыцца, то група звернецца ў пракуратуру.

Галоўны бухгалтар кааператыва **Тацццяна Рамановіч** сказала, што грошы навучэнцам заплацяць тады, калі разлічыцца гармалзавод. Спадзяецца, што гэта будзе на днях.

### Каментарый

Атрымліваецца замкнёнае кола. Малочныя заводы вінаватыя сельскагаспадарчым прадпрыемствам за малако, тыя не могуць плаціць зарплату калгаснікам. З-за гэтага большасць з іх не можа якасна выконваць работу. Таму і крадуць з калгасаў апошняе, і п'юць.

Зарплата навучэнцаў залежала ад колькасці сабранай бульбы. Моладзь пра гэта ведала і працавала так, каб зарабіць больш. А кааператыў не можа разлічыцца не толькі з навучэнцамі, але і са сваімі работнікамі – зарплату выплацілі толькі за ліпень.

Таму і добра, што работа навучэнцаў была дрэнна арганізавана. Навучэнцы сказалі, што прастойвалі кожны дзень не менш за гадзіну. А так грошай бы яшчэ больш зарабілі. Калі б тады кааператыў разлічыўся?

На наступны год навучэнцы гэтай групы паедуць зноў капаць бульбу. Як прымусіць іх працаваць сумленна?

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 31.10 руб. | 6.11 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1884,00 | **1888,00** |
| Еўра | 1853,29 | **1890,55** |
| Злоты | 465,26 | **474,74** |
| Літ | 536,57 | **547,50** |
| Расійскі рубель | 59,36 | **59,39** |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1880/90 | **1880/90** |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 30.10 | 6.11 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 10990 | **10990** |
| Сасіскі, 1 кг | 4900 | **4900** |
| Селядзец, 1 кг | 2500 | **2500** |
| Рыс, 1 кг | 700 | **700** |
| Грэчка, 1 кг | 580 | **780** |
| Цукар, 1 кг | 865 | **865** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1380 | **1380** |
| Алей, 1 л | 2000 | **2000** |
| Маянэз, 200 г | 400 | **400** |
| Кава «Пеле», 100 г | 1900 | **1900** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 600 | **600** |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 700 | **700** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 500 | **500** |
| Капуста, 1 кг | 400 | **350** |
| Морква, 1 кг | 500 | **450** |
| Лімоны, 1 кг | 1750 | **1700** |
| Апельсіны, 1 кг | 1450 | **1470** |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1 л | 800 | **650** |
| Смятана, 1 л | 1800 | **2000** |
| Масла, 1 кг | 4000 | **5000** |
| Тварог, 1 кг | 1700 | **2000** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1600 | **1900** |
| Бульба, 1 вядро | 2800 | **2800** |
| Яблыкі, 1 кг | 450 | **750** |

■ МАЛЫ БІЗНЕС

## Новая шавецкая майстэрня

**СМАРГОНЬ. У аўторак у цэнтры сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва адкрылася сацыяльная шавецкая майстэрня. Працаваць будзе адзін шавец. Абсталяваў майстэрню райбыткамбінат.**

Раней у цэнтры адкрылася цырульня. З панядзелка цырульнік абслугоўвае кліентаў дома.

**Ірына РАБУШКА.**

## Купа з більярднай

МЯДЗЕЛ. На днях у кафэ "Маладзёжнае" ў цэнтры Купы адкрылася більярдная на два сталы. Гадзіна гульні каштуе 3000 рублёў. Да гэтага ў більярд можна было пагуляць хіба што ў якіх здраўніцах.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ГРОШЫ

# Курс долара будзе таптацца вакол дзвюх тысяч

**Пры прыняцці праграмы развіцця краіны на наступны год Нацыянальным банкам курс долара быў вызначаны на адзнацы 2150-2160 рублёў да 1 студзеня 2004 года.**

Нагадаем, што да 1 студзеня 2003 года гэты паказчык не павінны перавысіць планавых 1920 рублёў. Аднак гэта ўжо, здаецца, пытанне. Бо пасля доўгага зацішша на валютным рынку, калі долар на працягу двух месяцаў быў не больш за 1860 рублёў, пачалося бачнае ажыўленне, і рубель захістаўся. Многія, мабыць, супакоіліся, калі долар імгненна дабраўся да адзнакі 1880 рублёў і яго рост прыпыніўся. Аднак ужо праз тыдзень быў пабіты ўзровень у 1890 рублёў, як і псіхалагічны бар'ер для многіх – курс у 1900 рублёў, і ўжо цяпер мы маем 1915 рублёў за долар. Рывок адбыўся імклівa, за 3-4 тыдні долар замацаваўся на 40 рублёў, г.зн., на 2 працэнты.

Прычын падзення рубля некалькі. Дзейнічае, як звычайна, сезонны фактар, калі пасля летняй спячкі і з набліжэннем заканчэння года ўсе імкнуцца зафіксаваць прыбытак, перавесці сродкі ў надзейныя активы — у валюту. На курс рубля ўплывае і пастаяннае зніжэнне даходу банкаўскіх дэпазітаў для насельніцтва. Зніжэнне стаўкі рэфінансавання (з 21 кастрычніка яна раўняецца 39%) падштурхоўвае банкі да памяншэння ставак па ўкладах грамадзян. Зарабляць на рублёвых укладах становіцца ўсё складаней, таму людзі спяшаюцца зняць свае зберажэнні і на іх купіць валюту, што ўзмацняе ціск на рынак наяўнай замежнай валюты і прыводзіць да росту курсу долара. Аднак галоўным фактарам падзення рубля сталі праблемы нашай эканомікі – інфляцыя і бюджэтны дэфіцыт.

Сёння інфляцыя ў краіне складае больш за 24 працэнты – гэта значна больш, чым у суседзяў на Захадзе і на Усходзе. З-за росту цэн наша прадукцыя становіцца менш канкурэнтаздольнай, што прыводзіць да падзення экспарту і зніжэнню валютнай выручкі. Аплачваць імпарт сыравіны і матэрыялаў прыходзіцца за кошт эмісіі рубля, што таксама адбіваецца на курсе нацыянальнай валюты.

Зніжэнне падатковых паступленняў прыводзіць да росту недафінансавання ўсіх асноўных расходных артыкулаў бюджэту – сродкаў не хапае амаль ні на што. Звяртанне ў дадзенай сітуацыі да друкарскага станка вядзе да падзення рубля таксама. Уздзеянне ўсіх гэтых фактараў і прывяло да падзення рубля да цяперашняга ўзроўню. Прагноз развіцця сітуацыі нескладаны. Многія ўжо даўно схіляюцца да думкі аб карыснасці курсу на ўзроўні 2500 рублёў за долар. На хуткай дэвальвацыі беларускага рубля настойваюць экспарцёры – ім тады ўдасца прадаць атрыманую валютную выручку па выгадным курсе, што дазволіць папоўніць бюджэт. Айчынным вытворцам тавараў народнага спажывання таксама выгадны рост курсу долара – тады пачынаецца ажыўленне гандлю, чысцяцца склады (у запасах знаходзіцца на складах тавараў на суму каля 1 трыльёна рублёў). Аднак пры курсе 2500 рублёў за долар за газ і нафту прыйдзецца плаціць даражэй, плаціць за ўсё прывазное прыйдзецца нам усім – спажыўцам. Таму і дасягнуты дарагой цаной узровень заробатнай платы ў 100 долараў будзе праваленьі, што быццам бы недапушчальна. Але, хутчэй за ўсё, курс і далей будзе таптацца каля адзнакі 2000 рублёў за долар. Мабыць, да вясны наступнага года.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

 



■ ЭКАЛОГІЯ

## Датчанін не нашкодзіў прыродзе

**МЯДЗЕЛ. Колькасць жывёлы ў раёне перавысіла норму, таму ўпершыню на тэрыторыі лесапаляўнічай гаспадаркі "Мядзел" арганізавалі туры для паляўнічых на капытных жывёл і кабана.**

За кастрычнік правялі 5 тураў. У асноўным былі беларускія аматары палявання, прыехаў і адзін датчанін. Хаця ён нічога не ўпаляваў, але застаўся задаволены.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Сякерай па галаве

**СМАРГОНЬ. 31 кастрычніка 41-гадовы бацька некалькі разоў ударыў сякерай па галаве 19-гадовага сына.**

У сваёй кватэры родныя пасварыліся. Абодва былі п'янымі. Сварка скончылася бойкай.

Сына адвезлі ў бальніцу. На бацьку ўзбуджаная крымінальная справа.

**Ірына РАБУШКА.**

## Здаюць стрэльбы

**МЯДЗЕЛ. Падчас аперацыі "Арсенал" жыхары раёна здалі 3 незарэгістраваныя стрэльбы.**

Раней у час падобных аперацый такой актыўнасцю яны не вылучаліся. Канфіскавана яшчэ адна стрэльба ў жыхара Пастаўшчыны, які паляваў на тэрыторыі Мядзельскага раёна.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ АДУКАЦЫЯ

## Клас ад універсітэта

**ВАЛОЖЫН. На базе Вішнеўскай сярэдняй школы адкрыўся педклас ад Дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка.**

Раней ён 5 гадоў быў у райцэнтры. Цяпер гарадскіх ахвотнікаў вучыцца ў педкласе не знайшлося, у адрозненне ад вяскоўцаў.

У класе вучыцца 16 чалавек. 7 з іх — вучні Вішнеўскай СШ, астатнія – з Багданаўскай і Сакаўшчынскай сярэдніх школ. Сярод іх 8 хлопцаў.

Дзеці абралі спецыяльнасці, якія патрэбныя раёну, — настаўнікаў матэматыкі, інфарматыкі, замежных моў і фізвыхавання.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

■ ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## Толькі для жанчын

**ВАЛОЖЫН. Пры жаночай кансультацыі раённай паліклінікі працуе кабінет планавання сям'і. Частка гуманітарнай дапамогі, якую нямецкія сябры прывезлі раённаму тэрытарыяльна-медыцынскаму аб'яднанню, прызначана для яго. Гэта гармнальныя кантрацэптывы.**

Па назначэнні ўрача і жаданні пацыенткі іх даюць бясплатна. За "лекамі" звярнулася 20 жанчын.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

■ ЖЫЦЦЁ НАШАЕ

# Аліменты плацяць збожжам

**МАЛАДЗЕЧНА. Наталлі С. прапанавалі 15 мяхоў збожжа замест аліментаў.**

... У адным пакойчыку інтэрната жыве Наталля С. з 14-гадовым сынам. Старэйшы сын служыць у арміі ў Валожыне. На малодшага сына былы муж Міхаіл выплачвае аліменты. Ва ўсялякім разе, павінны гэта рабіць.

### Еш, сынок, зярняткі

Да мая Міхаіл нідзе не працаваў. Яго запазычанасць па аліментах за 5 месяцаў была 200 тысяч рублёў. Наталля не вытрымала і звярнулася ў суд. Былога мужа павінныя былі "пасадзіць" за нявыплату аліментаў. Нечакана з калгаса "Лоск" Валожынскага раёна прыйшло пісьмо, у якім гаварылася, што Міхаіл з 3 чэрвеня працуе слесарам у гэтым калгасе. Наталля пашкадавала былога мужа і не пайшла на суд, дзе павінны быў вырашыцца лёс Міхаіла.

Прайшло лета. У пачатку верасня Наталля патэлефанавала ў калгас. Там ёй адказалі, што з чэрвеня ў гаспадарцы не выплачваюць зарплату. Таму чакайце. Будзе яна – будуць і аліменты. У канцы верасня Наталля ўсё ж такі атрымала частку запазычанасці аліментаў плюс новыя аліменты – усяго 36 тысяч рублёў. Нядаўна яна зноў патэлефанавала ў калгас. Ёй прапанавалі "ўзяць" аліменты збожжам. "Налічылі" 694 кілаграмы, альбо 15 мяхоў – гэта 77 тысяч рублёў.



Збожжа ў кашалёк не пакладзеш. Фота Ірыны Рабушкі.

### Жыццё прадаўжаецца

На сваю маленькую зарплату (60-70 тысяч рублёў) Наталлі цяжка гадаваць сыноў. Чым можа, дапамагае маці-пенсіянерка. Калі старэйшы сын вучыўся ў вучылішчы, аддаваў усю стыпендыю. Цяпер з арміі ўмудраецца гасцінцы маці перадаваць. Калі ў яе што ёсць, прывозіць сыну. Мяса Наталля ніколі не купляе, бо вельмі дарагое. Зрэдку хто-небудзь пачастуе. Малодшаму сыну ў школу 200 рублёў дае, і то не кожны дзень. Раніцай яна не есць. Маўляў, а мне і не хочацца. Зсабойку на работу бярэ: сала, капуста, хлеб.

Пра адзенне і казаць няма чаго. "Даношваем, што ёсць, — гаворыць яна, — у школу чуцьчуць дзіця сабрала". У цырку смяяліся сыны апошні раз 6 гадоў таму. Малодшы пра веласіпед марыць. За што яго купіць? І так пазычае грошы штомесяц. Зараз яму акуляры патрэбныя. 15 тысяч рублёў каштуюць – гэта чацвертая частка зарплаты. "Прыйдзецца зэканоміць на ядзе і застацца ў старым абутку", — кажа Наталля.

Каментарый спецыялістаў

Галоўны бухгалтар калгаса "Лоск" Валожынскага раёна **Святлана Бондарава**:

— У гаспадарцы за ліпень заработная плата ўсім без выключэння работнікам была выплачана збожжам. Аліменты таксама "налічылі" збожжам. Цана яго самая танная – 111 рублёў за кілаграм. За жнівень ніякіх налічэнняў яшчэ не было.

Але ж ніхто не прымушае і не абавязвае браць аліменты збожжам. Калі хто не хоча, няхай чакаюць грошай.

Усяго ў нашым калгасе 15 чалавек атрымліваюць аліменты.

**Анатоль Клімовіч**, юрыст:

— Налічваць аліменты збожжам і навязваць іх браць у такім выглядзе незаконна. Іх павінны выплачваць грашыма. Калі толькі чалавек пагаджаецца ўзяць аліменты натуральным прадуктам, тады іншая справа. Але так рабіць не варта. Хіба збожжам дзяцей пракорміш?

**Ірына РАБУШКА.**

■ ПАСЛУГІ

# Саюз турыстычных арганізацый

**Найбуйнейшыя беларускія турыстычныя кампаніі, сярод якіх «АлатанТур», «Сакуб», «Sunny Travel», «Смок» і «Внешинтурист», абвясцілі пра стварэнне Беларускага Саюзу турыстычных арганізацыяў.**

Сярод галоўных мэтаў новага аб'яднання - супраціў экспансіі турыстычных паслуг з боку расійскіх турфірмаў. Тыя прапануюць на беларускім рынку таннейшыя пуцёўкі і гэтым паставілі на мяжу існавання дзесяткі дробных беларускіх агенцтваў.

Нават з улікам кошту білетаў да Масквы адпачынак атрымліваўся больш танны, чым калі выпраўляцца ў падарожжа з Мінска. Чаму так адбываецца, тлумачыць эканаміст-менэджэр у справе турызму Іван Кобзік:

– У расіян больш танныя авіяпералёты. Гэта тлумачыцца манапольным становішчам кампаніі «Белавія» на беларускім рынку авіяперавозак і тым, што расійскія авіяперавозчыкі маюць больш змяшчальныя і, адпаведна, танныя самалёты (перавозка аднаго чалавека ў ІЛ-86 абыходзіцца значна танней, чым у ТУ-154). Другі момант: накіроўваючы на замежныя курорты вялікія плыні турыстаў, расіяне атрымліваюць значныя зніжкі. Але, прыкладам, па Іспаніі кошты расійскіх тураператараў у гэтым сезоне не былі эканамічна абгрунтаваныя. Гэта звычайны дэмпінг, і за пуцёўкі беларусам расійцы папросту даплачвалі - выключна дзеля таго, каб гэтых турыстаў да сябе прывабіць.

Паводле аднаго з кіраўнікоў Саюзу, прэзідэнта фірмы «Sunny Travel» Аляксандра Ванюкова, калі да пачатку наступнага сезона не будуць прынятыя адпаведныя захады на дзяржаўным узроўні, то беларускія турфірмы працягнуць нядоўга.

– Гэта актуальная задача паўсюдна ў Беларусі: ствараць канкурэнтаздольны прадукт, інакш мы папросту спынім існаванне. Супрацьстаяць буйным фірмам магчыма толькі разам. Гаворка тычыцца выключна Расіі, бо іншыя да нас не лезуць. З нашага боку мы здольныя зрабіць кошты, адпаведныя расійскім. Але цэнавая палітыка складаецца з пражывання і перавозак. А там кошты на самалёт мінімум на сто долараў меншыя, чым у нас. А зараз памножце на сям'ю... У нас у гэтай сферы манаполія, дый тое - задавальняюць Еўропу паводле шумавых патрабаванняў толькі 3-4 самалёты. Таму мы можам аб'ядначца і знізіць кошт прадукту. Аднак, паўтараю, усё залежыць не толькі ад пражывання, трансфераў, экскурсій, але і ад транспарту. Як гэта знізіць - пытанне складанае.

Але пакуль што захады дзяржавы цалкам адваротныя пажаданням тураператараў. Паводле нядаўняга ўказу Лукашэнкі аб новым парадку аплаты арэнды ў будынках дзяржаўнай уласнасці, турызм прызнаны высокарэнтабельнай сферай разам з гульнявым і рыэлтарскім бізнесам, і праходзіць паводле павышанага каэфіцыенту арэнднай платы. Неўзабаве турфірмы будуць плаціць за арэнду памяшканняў удвая больш.

**Паводле радыё "Свабода".**

■ МАРШРУТЫ

## Экалагічная сцяжынка

**Адукацыя Беларусі ўсё больш звяртаецца да праблем экалогіі. Пры школах распрацоўваюцца і пачынаюць дзейнічаць вучэбныя экалагічныя маршруты.**

Такі маршрут ёсць і ў Лебедзеўскай СШ Маладзечанскага раёна. Ён ахоплівае шэраг ландшафтаў рознага паходжання і дазваляе звярнуць увагу вучняў на многія заканамернасці.

Пачынаецца экалагічная сцяжынка ля самой школы, дзе ёсць "альпійскія горкі" і іншыя элементы штучнага паходжання. Затым праходзіць праз выток ручая (басейн ракі Нявежы) на ўскрайку Лебедзева. Раней – праз сажалку, якая зарастае, і дзе можна назіраць паступовую замену водных відаў раслін на балотныя. Прыводзіцца назіранні і за ўчасткам лесу, дзе абапал дарогі на кароткай адлегласці адзін ад аднаго размясцілася больш за 20 шматгадовых здаровых мурашнікаў. І заканчваецца сцяжынка высечаным участкам лесу, на якім прырода ўжо пачала ўзнаўляцца бярозай-самасейкай. З цягам часу бярозавы лес зменіцца бярозава-яловым, а потым спрадвечным яловым. Увесь маршрут займае дзве гадзіны. Дарэчы, ёсць у школе і рэльефны макет гэтай экалагічнай сцяжынкі.

**Алег БЯГАНСКІ.**

# Ф. Рушчыц – гонар двух народаў

**XIX стагоддзе ў беларускім мастацтве асабліва складанае: супярэчлівае і змрочнае. Беларусі не было. Быў Паўночна-Заходні край. Школы – няма. Праўда, ёсць Віленскі універсітэт. Але закрыюць і яго. За нядобранадзейнасць і вальнадумства.**



У варшаўскім доме Эдварда (у цэнтры) - сына мастака Фердынанда Рушчыца. Лета 2002 года.

Фота з асабістага архіва Марыі АМІЛАЎСКАЙ.




## Віленскі край і мастакі

Вільня – цэнтр краю. Тут адміністрацыя, навучальныя ўстановы, рэдкія па прыгажосці будынкі і помнікі. Вільня – гняздо інтэлігенцыі. Сюды цягнуцца самыя таленавітыя і здольныя з беларускай зямлі. Ім няма прастору ў Віцебску, Гародні, Менску.

І таму Вільня, віленскія мастакі – з'ява беларускага культурнага асяродку. Але і літоўцы, і палякі лічаць мастакоў Вільні толькі сваімі. Такім чынам трапілі ў культуру суседніх краін Валенцій Ванькові́ч, Іосіф Аляшкевіч, Вікенцій Дмахоўскі і іншыя. Мы прапануем літаратурны партрэт мастака Фердынанда Рушчыца, які ўславіў беларускую і польскую культуру.

## Станаўленне роду

Цяпер ужо мала хто носіць прозвішча Рушчыц, а ў мінулым (XVII-XIX) род Рушчыцаў гербу Ліс быў шматлікім і меў шмат галін.

Больш за астатніх, даследчыкі ведаюць пра галіну, якая паходзіць ад Хацкі Фёдара Рожчыча, які жыў на мяжы XV-XVI стагоддзяў. Галіну гэтую назвалі брэсцкай. Да мастака род прайшоў XI пакаленняў.

Радавым гняздом Рушчыцаў былі Збірохі. Яны знаходзяцца на тэрыторыі Брэсцкай вобласці. Межавалі з Сенхавіцкімі, адкуль пайшоў род Тадэвуша Касцюшкі. Збірохамі Рушчыцы валодалі да 1564-1568 гг., пасля чаго радавым гняздом сталі Макраны, якія знаходзіліся на паўднёвым усходзе ад Кобрына. Імі валодалі Рушчыцы да 1782 года.

Сярод славутых людзей роду – Ян Рушчыц. Быў сакратаром караля Яна II Казіміра Вазы і за службу атрымаў ад караля тры валокі брэсцкай зямлі. Ён жа ў 1680 годзе набыў частку Барысавіч.

Дзед мастака, таксама Фердынанд Рушчыц, нарадзіўся 6 лютага 1786 года ў Кобрынскім павеце, дзе ў 1811 годзе набыў фальварак Бакаўшчызна. Па прафесіі юрыст, быў адвакатам кобрынскага земскага суда, а ў 1817 годзе – упаўнаважаным ардыната Радзівіла ў Радзівілаўскай камісіі.

У 1825 годзе Фердынанд Рушчыц ажаніўся з Ганнай Чаховіч, сястрой Даніэля Чаховіча, удзельніка паўстання 1831 года, а пасля – эмігранта. У 1836 годзе Фердынанд перакупляе з аўкцыёну Багданаў у Чаховічаў. Разам з Вайганамі Багданаў належаў роду Рушчыцаў аж да 1944 года.

## Сям'я мастака

Фердынанд не дачакаўся ўнукаў. Ён памёр у 1848 годзе падчас эпідэміі халеры. Ганна дажыла да 1874 года і памерла ва ўзросце 74 гады. Пахаваны ў Багданаве.

Мелі ж яны дзевяць дзяцей. Тры сыны – Эмануэл (1827-1905), Эдвард (1830-1910) і Максіміліян (1841-1867) – закончылі кадэцкі корпус у Брэсце. Эмануэл быў вайсковым інжынерам, Эдвард займаў высокую пасаду ў дырэкцыі па будоўлі Лібава-Роменскай чыгункі, Максіміліян памёр маладым. Спадчынныя маёнткі (Багданаў меў 471 дзесяціну, а Вайганы – 670 дзесяцін зямлі) пасля смерці Эмануэля адышлі да Эдварда (бацькі мастака) і яго нашчадкаў. Эдвард Рушчыц (1830-1910), калі быў у войску, ажаніўся ў Лібаве (цяпер Ліепая, Латвія) з Альбінай Мунх, датчанкай, дачкой Марцуса Андрэаса Мунха – уласніка гандлёвага судна.

Эдвард і Альбіна мелі тры дачкі – Ганну, Адэліну і Вольгу – і аднаго сына, якога назвалі ў гонар дзеда Фердынандам. Ганна з цягам часу стала баранэсай фон Корф, выйшаўшы замуж за барона Яна Корфа. Іх нашчадкі цяпер жывуць у Лондане. Адэліна памерла ва ўзросце 18 год (1863-1881). Вольга, пайшоўшы замуж за Вільгельма Раніска ў 1902 годзе, да смерці жыла ў Германіі. Больш складаным быў лёс мастака Фердынанда Рушчыца.

## Мастак Фердынанд Рушчыц

Нарадзіўся Фердынад Рушчыц 10 снежня 1870 года ў маёнтку Багданава Ашмянскага павета Віленскай губерні.

У канцы XIX стагоддзя ў Багданаве быў касцёл, пабудаваны ў 1844 годзе, вадзяны млын, сукнавальня, піцейны дом. Былі 22 жыхары ў маёнтку, 197 – у суседняй вёсцы. Пачаў вучобу Фердынанд у К. Ермалаева ў Мінску. На той час гэта выкладанне было першай прыступкай да іншых навучальных устаноў, веды якіх былі больш трывалымі.

Пасля стаў слухачом Пецярбургскай акадэміі мастацтваў. За плячыма ўжо першыя спробы творчасці. Мінск паўстае рэальным і прыгожым на палатне "Мінск зімою" (1895). Лірычнасцю вызначаюцца пейзажы гэтага перыяду: "Вясна" (1897), "Млын зімою" (1897). Пасля заканчэння Акадэміі мастацтваў у 1897 годзе Рушчыц абраў жыццё на Беларусі.

Наступныя работы кажуць самі за сябе. Гэта "Крэва" (1899), "Багданава" (1905). Родныя мясціны прыцягвалі мастака. Без іх – не працавалася.

Мастаку патрэбна вучыцца ў сваіх паплечнікаў-майстроў. Настаўнікамі Рушчыца былі Шышкін і Куінджы. Свае веды паглыбляў ужо прафесарам прыгожых мастацтваў у Варшаве (1904-1907), Кракаўскай акадэміі мастацтваў (1907-1908). Працаваў на аддзяленні прыгожых мастацтваў Віленскага ўніверсітэта (1919-1932).

Не мог не ўвасобіць сацыяльныя праблемы Беларусі і беларусаў – работы "Каля касцёла" (1899), "У свет" (1901), "Эмігранты" (1902). Твор Рушчыца "Зямля" (1898) стаў сімвалам нашай Бацькаўшчыны. Навеены ён нашым эпасам. Ухваліць чалавека на раллі мог толькі той, хто быў побач, ведаў аратага і ганарыўся ім.

Як і Шышкін, Рушчыц не прызнаваў пейзажаў, створаных у майстэрні. І яго работамі "Зімовая казка" (1904), "Лясны ручай", "Берагі Віленкі" захапляліся гледачы. Працаваў і як графік: выконваў ілюстрацыі да перыядычных выданняў Вільні, Варшавы, Кракава. Аўтар станкавых работ "Залаты пакой"(1913), "Сям'я", "Аўтапартрэт". Аформіў шэраг спектакляў у тэатры Н.Младзяеўскай-Шчуркевіч у Вільні.

Адначасова з мастацкім жыццём жыў насычаным асабістым. Ажаніўся ў 1913 годзе ў Вільні з Рэгінай Роуцк (1892-1939), дачкой дырэктара Віленскага аддзела Таварыства страхавання ў Пецярбургу, уласніка маёнтка Парудаміна пад Вільняй. Было шэсць дзяцей. Памёр мастак у 1936 годзе. На тры гады перажыла яго Рэгіна Рушчыц. Апошні прытулак яны знайшлі ў Багданаве, на сямейным магільніку, дзе пахаваны 19 членаў яго сям'і.

## Нашчадкі

Старэйшая дачка Яніна (1914-1988) – доктар філасофіі, гісторыі мастацтва ў Бецэнгене, Вільні, Кракаве і Варшаве. Захавальнік Нацыянальнага музея ў Варшаве (1946-1984), даследчык гісторыі партрэтнага мастацтва, манаграфістка творчасці свайго бацькі, аўтар больш як 50 навуковых публікацый.

Сын Эдвард нарадзіўся ў 1915 годзе ў Вільні. Вучыўся ў Варшаўскім політэхнічным інстытуце. Магістр. Інжынер. У 1944 годзе ўдзельнічаў у складзе Арміі Краёвай у Варшаўскім паўстанні. Пасля паразы паўстання трапіў у палон. У 1949-1980 гг. – супрацоўнік інстытута электратэхнікі ў Варшаве. З 1980 года – на пенсіі.

Менавіта ён апрацаваў "Дзённікі" свайго бацькі, якія ахопліваюць перыяд з 1894 па 1932 гады. "Дзённікі" былі выдадзены ў Варшаве ў 1994 і 1996 гадах. Складаюцца яны з дзвюх частак і змяшчаюць больш за 1000 старонак друку. Эдвард Рушчыц чытаў лекцыі аб творчасці свайго бацькі, апублікаваў шмат артыкулаў, прысвечаных яго дзейнасці.

Другі сын мастака – Оскар Рушчыц – нарадзіўся ў 1917 годзе ў Вільні. Па прафесіі псіхолаг, вучыўся ў Галоўнай гандлёвай школе ў Варшаве (1938). Пасля другой сусветнай вайны апынуўся ў ЗША. Працягваў вучобу ў Нью-Ёрку, атрымаў пасаду прафесара псіхалогіі. Памёр у 1996 годзе.

Дачка Ева Рушчыц (1922-1945) памерла пасля пераезду сям'і з Вільні ў Польшчу. Сын Анджэй Рушчыц (1926-1976) па прафесіі ўрач. Вясной 1944 года ўступіў у склад Арміі Краёвай. Служыў у яе 12-й брыгадзе. У 1945 годзе апынуўся ў Польшчы. Вучыўся ў Медычнай Акадэміі ў Варшаве, якую закончыў у 1952 годзе.

Малодшая дачка – Барбара Рушчыц (нарадзілася ў Вільні ў 1928 годзе) – доктар гуманітарных навук, археолаг, егіптолаг. Вучылася ў Варшаўскім універсітэце на гістарычным факультэце (1950-1955). З'яўляецца куратарам Галерэі старажытнага мастацтва Нацыянальнага музея ў Варшаве, кіраўніком польска-каптыйскіх археалагічных раскопак у Тэль-Атраб (1969-1981), ад'юнктам кафедры Археалогіі Хрысціянскай на тэалагічным факультэце АТК у Варшаве.

З шасці дзяцей мастака толькі ягоны сын Эдвард мае нашчадкам сына-Фердынанда, які нарадзіўся ў 1959 годзе. Закончыў ён гістарычны факультэт Варшаўскага універсітэта ў галіне гісторыі мастацтва. Магістр. З 1996 года – дырэктар Нацыянальнага музея ў Варшаве. Ёсць і больш юныя прадстаўнікі роду, яго дзеці – Караліна (1981 г.н.) і Эдвард (1982 г.н.).

**Алесь РАЛАВЕЦ.**

# Калектывізацыя ў Вілейскай

**17 верасня 1939 года Заходняя Беларусія ўвайшла ў склад БССР і СССР. Згодна з Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 15 студзеня 1940 года і ў адпаведнасці з Канстытуцыяй 1937 года, на тэрыторыі Вілейскай вобласці (куды ўвайшла беларуская частка тэрыторыі былога Віленскага ваяводства) пачалі дзейнічаць савецкія органы і ўстановы, сярод якіх — Вілейскі абласны зямельны аддзел.**

Пры ім было таксама створанае Упраўленне землеўпарадкавання і севазваротаў, у функцыі якога ўваходзілі ўлік і рэгістрацыя ўсіх зямель па ўгоддзях і землекарыстальніках, арганізацыя і правядзенне землеўпарадкавальных работ і інш.

Гэтыя арганізацыі праводзілі ў жыццё палітыку ВКП(б) у галіне сельскай гаспадаркі, якая заключалася ў нацыяналізацыі памешчыцкіх і асадніцкіх землеўладанняў, абразанні зямлі ў многазямельных сялян і ў арганізацыі на тэрыторыі Вілейскай вобласці калгасаў і саўгасаў.



Маладзечаншчына. Верасень 1939-га года. Сялянкі хутка справяць акопкі панскай бульбы. Гаспадара няма - як большасць памешчыкаў ён не стаў чакаць новыя ўлады.

Фота В.Цёміна (фонды Мінскага абласнога краязнаўчага музея ў Маладзечне).

## Стандарт - 12 гектараў

Згодна з рашэннем Вілейскага абкома КП(б)Б і аблвыканкома праводзілася абразанне зямлі ў сялянскіх гаспадарках, чые зямельныя ўладанні перавышалі 12 га. Абрэзаная зямля перадавалася бязвыплатна ў карыстанне беззямельных і малазямельных сялян. З верасня 1939 года па чэрвень 1941 года сялянству Вілейскай вобласці з былых памешчыцкіх і асадніцкіх гаспадарак было перададзена 330 тысяч гектараў зямельных угоддзяў, 4860 галоў буйной рагатай жывёлы, 2290 коней, 6350 галоў дробнай жывёлы. Толькі ў 1941 годзе было выдадзена 2800 тон насеннай пазыкі.

У 1940 годзе на тэрыторыі Вілейскай вобласці былі арганізаваныя першыя калгасы. Ужо па стану на 20.03.40 г. у Маладзечанскім раёне былі арганізаваныя 6 калгасаў: імя Варашылава ў Раеўшчыне, імя Сталіна ў Хажове, імя Леніна ў Выверах, "17 Верасня" ў маёнтку Забеліна і ў Бруськаўшчыне, "Барацьба за сацыялізм" у Беразоўцах, імя РККА ў Маркаве. У Радашкавіцкім раёне ў в. Графкі быў арганізаваны калгас імя Сталіна, у Свірскім раёне ў Падліп'і – калгас імя Молатава, у Чалкунах – калгас імя Сталіна.

**Згодна з даваенным дакументам, які часткова захаваўся, па стану на вясну 1941 года ў Маладзечанскім раёне было створана 14 калгасаў, столькі ж – у Куранецкім і Пастаўскім раёнах, 6 – у Ільянскім, 15 – у Мядзельскім, 7 – у Радашкавіцкім, па 5 калгасаў – у Відзаўскім і Смаргонскім раёнах, 9 – у Глыбоцкім, 13 – у Дунілавіцкім. Самая вялікая колькасць калгасаў – 34 – была створана ў Міёрскім раёне, 24 калгасы – у Дзісненскім і 17 калгасаў – у Докшыцкім раёне.**

Усяго да чэрвеня 1941 года ў Вілейскай вобласці было створана ўжо 260 калгасаў. Праўда, гэтая лічба з'яўляецца вельмі адноснай, бо калгасы, якія ствараліся лёгка, за адзін дзень, бывала, лёгка і распадаліся ці значна памяншаліся ў памерах.

Напрыклад, вось што адбывалася вакол стварэння калгаса імя Сталіна Хожаўскага сельсавета Маладзечанскага раёна (звесткі ўзятыя з даведкі загадчыка аддзела сельскай гаспадаркі Вілейскага абкома КП(б)Б): у дзень арганізацыі 17 лютага 1940 года ў калгас уступіла 140 гаспадарак. Пасля 6 дзён 34 гаспадаркі, у адзін дзень, выйшлі з калгаса. За 3 з палавінай месяцы існавання калгаса з яго выйшлі 57 гаспадарак (40% першапачатковага складу). Зноў прынята было 4 гаспадаркі. З выйшаўшых зноў уступіла ў калгас 1 гаспадарка.

З гэтай жа даведкі загадчыка сельгасаддзела Вілейскага абкома бачна, што большасць калгаснікаў Хажова былі з батракоў і беднякоў. Уступленне ў калгас заможнай часткі вёскі, як зазначае аўтар, "прайшло пад уражаннем аперацыі высялення асаднікаў і лясной вартавой аховы", але затым яны пад уплывам "контррэвалюцыйнай агітацыі аб вайне і нетрываласці Савецкай улады на дадзенай тэрыторыі" выходзілі з калгаса. У 78 гаспадарках, што засталіся ў калгасе, было 430 душ, з якіх 218 было працаздольных. 17 гаспадарак наваяўленых калгаснікаў раней былі беззямельнымі, 21 гаспадарка мела ад 0,5 да 3 га зямлі, 46 гаспадарак – ад 3 да 5 га зямлі і звыш 5 га зямлі мелі толькі 3 гаспадаркі. 30 гаспадарак калгаснікаў былі без коней, адна гаспадарка не мела нават каровы, 44 гаспадаркі мелі па 1 карове, 29 гаспадарак – 2 каровы, 13 гаспадарак мелі больш за 2 каровы, 5 гаспадарак мела конныя малацілкі.

У дадзеным калгасе мелася 917 га зямлі, у тым ліку 558 га раллі. Па стану на 1941 год калгас быў забяспечаны насеннем для правядзення вясенняга севу, прычым амаль 50% ад усёй колькасці насення было атрымана ў выглядзе насеннай пазыкі. Таксама гэты калгас быў поўнасцю забяспечаны цяглавай сілай і сельскагаспадарчым інвентаром, галоўным чынам, за кошт абагульнення маёмасці членаў калгаса і, часткова, за кошт маёмасці дзяржаўнага фонду, што бачна з наступнай табліцы:

| Найменне | Абагульненне | Атрымана ад дзяржавы |
|---|---|---|
| Коні рабочыя | 61 | 12 |
| Маладняк | 2 | 2 |
| Плугі розныя | 45 | 19 |
| Бароны розныя | 41 | 16 |
| Калёсы | 50 | 6 |

Акрамя таго, з дзяржаўнага фонду калгас атрымаў таксама малацілку з лакамабілем, 4 збожжаачышчальныя машыны, жняярку, сенакасілку, 3 сеялкі і інш. Правяраючы пiша аб жыццядзейнасці калгаса, аб добрасумленных адносінах калгаснікаў да сваіх абавязкаў і робіць выснову, што неабходна дапамагчы калгасу наладзіць улік і арганізацыю працы, а таксама даць крэдыты на ўгнаенні, часткова на будаўніцтва і набыццё сельгасмашын. І тады калгас трывала стане на ногі. Варта адзначыць, што калгас імя Сталіна Хажоўскага сельскага Савета Маладзечанскага раёна (старшынёй якога па стану на 20 сакавіка 1941 года быў Бурачонак Васіль Георгіевіч) за добрыя паказчыкі ў рабоце быў залічаны экспанентам на Усесаюзную сельгаспадарчую выстаўку на 1941 год.



Чырвоная Армія у раёне Маладзечна ў верасні 1939 года. Чырвонаармейцы ведалі, што такое калгасы, заходнебеларускія сяляне хутка таксама даведаюцца.

Фота В.Цёміна (фонды Мінскага абласнога краязнаўчага музея ў Маладзечне).

## Патрабавалася неадкладнае ўмяшанне райкома

Але сярод калгасаў вобласці такіх калгасаў, пра які толькі што згадвалася, было мала. Як бачна з дакладной запіскі пракурора Браслаўскага раёна сакратару РК КП(б)Б і пракурору Вілейскай вобласці, ім была праверана гатоўнасць 3 калгасаў раёна ў сакавіку 1941 года да пасеву.

Гэты дакумент прыводзіцца поўнасцю: "Прокуратурой проверены три колхоза в части подготовки их к весеннему севу, проверкой установлено: в колхозе "Красная звезда" Залесского сельсовета 5 пароконных плугов отремонтированы, отремонтированы 8 борон. Хомуты и другая упряжь еще не ремонтируется, что председатель колхоза объясняет отсутствием шорника, войлока и т.п. К ремонту телег колхоз также не приступал, председатель колхоза объясняет, что нет для ремонта железа и негде купить. Семенами колхоз обеспечен, за исключением вики и клевера. Семена только отсортированы, на всхожесть не проверены. Тягловая сила в колхозе - кони - имеют среднюю упитанность. За лошадьми нет надлежащего ухода, лошади грязные, не чистятся, на жеребятах в возрасте 1 года, шерсть, как на козлах.

В колхозе им.Молотова уста-

# вобласці (1939 - 1941 г.г.)

новлена такая бесхозяйственность, что требует немедленного вмешательства в дела колхоза райкома партии. Состояние животноводства в колхозе находится в самом плохом виде. Лошади обезличены, истощены, не чистятся, грязные. Лошади обезличены между конюхов, а также среди колхозников. Есть факты, когда колхозники самовольно берут лошадей с конюшни для личных надобностей, и после того, как этот колхозник отказался поехать на лесовывозку. Конюхи не имеют щеток и скребниц для чистки лошадей и, не смотря на обращение их к председателю колхоза и к животноводу, последние не обращают на это внимания.

В конюшне грязь, кормушек нет, лошади привязываются за шею веревкой, что не исключает возможность удушения лошадей. Не все лошади отгорожены одна от другой, а если и отгорожены, то они перепрыгивают свободно, т.к. очень много скопилось навоза. В конюшне, где кладется сено, туда и заходят лошади, которые ходят по всему сену и топчут. Рогатый скот также истощен, кормушки поломаны. В настоящее время проходит массовый отел, для чего не оборудовано специально такое помещение, с тем, чтобы до отела и после отела отделять коров от общего стада на некоторое время.

В день проверки оказалось, что корова буквально после нескольких часов после отела стоит на общем дворе против ворот на самом сквозняке и стоит сгорбившись. Зав. фермой, будучи на скотном дворе, на это никак не реагирует. Кроме того, здесь же, на скотном дворе, сделана деревянная клетка, где находятся 5 молодых телят. Причем эта клетка также расположена против ворот, следовательно, телята могут быть простужены от сквозняка. В таком же положении телята находятся и в телятнике, как , например, телята в возрасте 1 года стоят в более теплом и лучшем месте, чем телята отела текущего года, которые стоят также против ворот, а стена наружная имеет большие щели, в которые сильно сквозит ветер.

Свиньи настолько грязные, тощие, что сразу невозможно определить, что это за животное. Правда, когда я посмотрел этих свиней, имея ввиду поругать свинарку, а после этого решил посмотреть, как же живет сама свинарка, и пошел к ней на квартиру, и что же оказалось? Свинарка- Петушко София Анновна с 1915 года рождения, имеет троих человек детей в возрасте 7, 6 лет и 7 месяцев, мужа не имеет и не имела, алиментов ни с кого не получает, живет одна с этими детьми и живет в свинарнике , это без всякой приукраски. Я постараюсь описать это помещение. Большой деревянный сарай, в котором помещаются свиньи. В конце этого сарая отгорожено место, где для свиней готовится корм, там стоит котел, где варятся картофель, бурак и т.п., русской печи там нет, пола нет, есть окно с разбитыми стеклами, там же лежат картофель, бураки, мука и т.п., там и дрова, и здесь же стоит стол и деревянная кровать с лохмотьями, причем вход в это помещение такой: нужно вперед войти через ворота в свинарник, пройти весь свинарник, а потом можно попасть туда, где живет свинарка. После того, как я посмотрел, как она живет, так не только не нужно ее ругать за грязных свиней и т.п., а, наоборот, нужно ей показать, как должен жить человек, с тем, чтобы она могла видеть и различать грязь от чистого, а она этого не видит, т.к. у нее одинаково грязно, где она живет и где находятся ее маленькие дети, такое же положение в свинарнике. Меня поразило, как это могло случиться под боком и на глазах МТС, сельсовета и тов. Козловского, зав. райзо, который неоднократно был в этом колхозе. Я предложил пред. колхоза немедленно предоставить свинарке помещение для жилья. Кроме того, принял соответствующие меры к розыску отцов ее детей, с тем, чтобы оказать ей помощь взыскать с них алименты. Считал бы необходимым поставить вопрос перед райисполкомом об оказании Петушко материальной помощи.

Семенами колхоз обеспечен, семена еще не очищены, на всхожесть не проверены, клевер еще не обмолочен. Телеги поломаны, разбросаны и не ремонтируются. Хомуты, как возовые, а также пахотные, порваны и не ремонтируются, обезличены. Жатка находится в снегу, заржавела. В беседе с колхозниками последние заявляют так, что " у нас нет головы", это значит, что у них нет председателя колхоза и весьма председателем колхоза недовольны. Следует отметить, что доярки заявили, что зоотехник был в колхозе всего один раз, но с ними не разговаривал, а ветврача онп в глаза не видели.

В колхозе "1Мая" можно отметить, что там председатель колхоза хозяйственный человек, хотя он и работает всего одну неделю, имеет подход к колхозникам, и сейчас подготовка к севу идет неплохо. Семена послали на анализ, добывают торф, инвентарь - плуги, бороны - отремонтирован, ремонтируются и телеги. На конюшне, на скотном дворе имеется надлежащий порядок. Правда, лошади чистятся плохо, коровы не чистятся, грязные, телята прошлогодние находятся в весьма тесном помещении, и один из них болеет лишаем, но от других не отделен. Зоотехники, ветврачи в колхозе не бывают, так заявляют колхозники. Свиньи находятся не в плохом состоянии, как в части ухода, помещения и упитанности. Две свиноматки опоросились, у одной из 12 штук 4 пало , о чем райзо не знает и , наоборот, зоотехник, докладывая на исполкоме о состоянии животноводства, говорил, что падежа поросят в колхозах нет."

Можна ўявіць сабе, як выглядаў даваенны калгас Вілейскай вобласці.

### Калгасы не рабілі надвор"я

Вяртаючыся да сказанага, яшчэ раз нагадаем, што да чэрвеня 1941 года ў Вілейскай вобласці было створана 260 калгасаў. Многа гэта ці мала? Канешне, калі памятаць аб тым, што гэта зусім новая для Заходняй Беларусі форма гаспадарання была ўведзеная ў 260 вёсках (даваенны калгас прыблізна роўны адной вёсцы), то гэта вельмі многа. Аднак можна разгледзець наступны матэматычны прыклад: па стану на 1 студзеня 1941 года ў вобласці было 146 калгасаў, у якіх было 5410 гаспадарак і якім належала 54509 га зямлі. У той жа час 162826 аднаасобным сялянскім гаспадаркам належала 1134283 га зямлі. З гэтых дадзеных вынікае, што, калі прыняць колькасць усіх сялянскіх гаспадарак за 100%, то калгасны сектар складаў усяго 3,3% ад гэтай колькасці, і ім належала ўсяго 4,8% зямлі. Нават калі падвоіць гэтыя лічбы (260 больш за 146 прыкладна ў 2 разы), то становіцца зразумелым, што створаныя ў 1940-1941 гадах калгасы (і калі не браць іх эканамічную слабасць, неарганізаваны працэс вытворчасці, а парой проста нежыццяздольнасць) не маглі зрабіць надвор'я ў аграрнай сферы заходнебеларускіх абласцей.

**Такім чынам, даваенная рэформа аграрнага сектара эканомікі Заходняй Беларусі звялася да ліквідацыі памешчыцкага і асадніцкага землеўладання, нацыяналізацыі гэтых зямель і да абразання зямлі да вызначанай нормы ў 12 гектараў у буйназямельных сялянскіх гаспадарках. Абрэзаная зямля была раздадзена ў карыстанне беззямельным і малазямельным сялянам. На нацыяналізаваных землях ствараліся машынна-трактарныя станцыі, саўгасы (у Вілейскай вобласці па стану на 01.01.1941 г. было створана 6 саўгасаў, у якіх было 15754 га зямлі), калгасы. Але большая частка зямельных угоддзяў вобласці заставалася ва ўласнасці аднаасобнага сялянскага сектара.**

Нямецка-фашысцкія акупанты ў час Вялікай Айчыннай вайны ўзнавілі на акупіраванай тэрыторыі памешчыцкае і асадніцкае землеўладанне. Так, імі было ўзноўлена 199 памешчыцкіх маёнткаў з агульнай зямельнай плошчай 260089 га, г. зн. 40% усіх зямель вобласці. Таксама імі было створана 214 так званых ваенна-прыгонніцкіх гаспадарак агульнай зямельнай плошчай 51235 га (7,6% зямель вобласці).

У часы Вялікай Айчыннай вайны народнай гаспадарцы Вілейскай (з верасня 1944 года – Маладзечанскай вобласці) быў нанесены вялізны ўрон. Прывядзём некаторыя звесткі па ўліку ўрону, прычыненага нямецка-фашысцкімі захопнікамі грамадзянам, калгасам, грамадскім арганізацыям, прадпрыемствам, установам Маладзечанскай вобласці, якія дадзены Маладзечанскай абласной камісіяй ва Усесаюзную надзвычайную камісію па ўліку ўрону: "Маладзечанская абласная камісія перадае ў надзвычайную дзяржаўную камісію 49579 актаў на суму 5776979,1 тыс.руб., у тым ліку актаў ад калгасаў – 114 на суму 270921,2 тыс. руб., 82 акты ад устаноў культуры, мастацтва і рэлігійнага культу на 129928,9 тыс.руб., 148 актаў ад прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый на 147109,0 тыс. руб.

Абласной камісіяй устаноўлена, што нямецка-фашысцкія захопнікі і іх памагатыя знішчылі і разбурылі ў калгасах 781 збудаванне, у тым ліку 129 жылых дамоў з агульным аб'ёмам 95829 кбм, 13 будынкаў прамыслова-вытворчага прызначэння, 1 электрастанцыю, 247 жывёлагадоўчых збудаванняў, 161 магазін і склад, 118 збожжасховішчаў, 5 агароднінасховішчаў, 83 іншыя пабудовы гаспадарчага прызначэння, 10 клубаў і чырвоных куткоў, 4 дзіцячыя ўстановы. Знішчылі і разрабавалі 3454 галавы буйной рагатай жывёлы, 3281 коня, 1724 свінні, 3859 авечак і козаў, 3076 розных птушак, 941 пчоласям'ю, 443 тоны збожжа, 230 тон бульбы, 349 тон сена. Знішчылі 13110 гектараў пасеваў збожжавых культур, 2121 гектар бульбы, 1597 гектараў іншых сельскагаспадарчых культур, 37 гектараў шматгадовых насаджэнняў. Гітлераўцы разрабавалі ў грамадзян 40298 галоў буйной рагатай жывёлы, 23203 галавы дробнай жывёлы, 29688 коней, 44366 свіней, 94091 авечку і казу, 29682 свойскія птушкі, 14055 пчоласем'яў, 38056 тон збожжа, 41326 тон бульбы і агародніны, 7479 тон мукі, 31925 тон іншых прадуктаў харчавання; знішчылі 16369 жылых дамоў і 36110 падворных пабудоў з агульным аб'ёмам 7869060 тыс. кбм, 23934 шматгадовыя дрэвы".

**Наталля ІВАНОВА,**
**загадчыца аддзела занальнага дзяржархіва ў Маладзечне.**





**Запіс сялян у сельскагаспадарчую арцель. Маладзечанскі раён, 1940 год. Усяго да чэрвеня 1941 года ў Вілейскай вобласці было створана ўжо 260 калгасаў. Праўда, гэтая лічба з'яўляецца вельмі адноснай, бо калгасы, якія ствараліся лёгка, за адзін дзэнь, бывала, лёгка і распадаліся ці значна памяншаліся ў памерах.**

Фота з фондаў Мінскага абласнога краязнаўчага музея ў Маладзечне.

# Найзайздросныя жаніхі Расіі

**Дзяўчаты звычайна мараць пра прынца на белым кані, як правіла, пра вядомага і багатага. У Расіі цяпер, як адзначае OBN.ru, ёсць некалькі мужчын – вельмі і вельмі зайздросных жаніхоў.**

## Павел Бурэ

Пад нумарам першым ідзе прыгажун-спартсмен Павел Бурэ. Яму 31 год. Ён багаты чалавек (мае даход у некалькі мільёнаў долараў у год). Апроч белакурых валасоў і галівудскай усмешкі, ён з'яўляецца прадстаўніком вядомага расійскага прозвішча (продкі Бурэ былі вядомыя гадзіннікавыя майстры, уладальнікі майстэрні "Бурэ і сыны", дзед – выдатны ватэрпаліст, першы варатар першай зборнай СССР па водным пола, тата – заслужаны майстар спорту па плаванні).

Пакуль, па невядомых прычынах, Павел Бурэ ходзіць у халасцяках. На каварныя заметкі журналістаў – "В 30 лет жены нет и не будет" – адказвае, што яго задавальняе спакойнае жыццё звычайнага халасцяка.



Ёсць у спартыўнай зоркі і недахопы – у яго велізарная колькасць маладзенькіх паклонніц па ўсім свеце, а апроч гэтага, з-за напружанага графіка трэніровак яму проста няма часу на ўласнае жыццё. Што тычыцца густу Паўла Бурэ, то, зыходзячы з фотакартак у прэсе, яму падабаюцца бландыністыя тоненькія дзяўчаткі-мадэлі, да таго ж добра выхаваныя і жаноцкія. А вось да ярых феміністак, у адрозненне ад спакойных, ён адносіцца дрэнна. Па яго меркаванні, калі жанчына лічыць, што яна нічым не адрозніваецца ад мужчыны, то яна павінная адчыняць перад ім дзверы, дарыць кветкі, падвозіць на машыне і абараняць ад хуліганаў. А ўсё гэта кволую паненку, як вы разумееце, не ўпрыгожвае. Бурэ лічыць сябе сапраўдным мужчынам і ніколі не дазволіць спадарожніцы падобнага.

## Алег Меншыкаў

Далей у рэйтынгу зайздросных жаніхоў стаіць акцёр і рэжысёр Алег Меншыкаў. Душа кампаніі і верны сябар, уладальнік усемагчымых кіно свету, тэатральных прэміяў і ўзнагародаў, але пры гэтым надзвычай скрытны і загадкавы, закаранелы халасцяк. Нават журналісты не здолелі выведаць, ці меў ён хаця б адзін бурны раман у сваім жыцці. Да недахопаў можна аднесці раздражняльнасць і нервовасць.

Алег жыве ў Маскве, у прэстыжнай кватэры на адной з маскоўскіх набярэжных, ездзіць на джыпе "Мерседэс" з вадзіцелем, мае прасторны офіс з пампашканнем для рэпетыцый. Наколькі высокія яго даходы, пакуль невядома, але, па чутках, кантракт са швейцарскай гадзіннікавай кампаніяй "Longines" прынёс Меньшыкаву кругленькую суму. Акрамя "Мерседэса" ёсць "Фольксваген-Пасат" і "Таёта-Лексус". Пазнаёміцца з ім можна на тэатральнай прэм'еры сезона, на кінапробах. Каго чакае поспех – невядома, паколькі Меньшыкаў ніколі не гаворыць пра сваё ўласнае жыццё.





## Андрэй Малахаў

Сярод тэлевізійнай браціі самым заўважаным з патэнцыяльных мужоў стаў вядучы ток-шоу "Большая стирка" Андрэй Малахаў. Ён любімчык жанчын, хітрая шэльма з праўдзівымі вачыма. У вядомай ступені асоба дэманічная – яму прыпісваюць раманы са шведскай журналісткай, якая некалькі гадоў таму пакончыла з сабой, безыменнай самастойнай жанчынай з дзіцем і маладой студэнткай з роднага журфака МДУ.

Але жыве Малахаў, па чутках, адзін у раскошнай кватэры ў адным са сталічных высотных будынкаў. Раніцай абавязкова п'е ранішні кактэйль: два апельсіны, банан і два ківі ўзбіваюцца ў міксеры. Ён клапоціцца аб сваім здароўі і часта бывае ў спартзале на Пакроўцы, таму "лавіць" Андрэя можна там. Яшчэ можна напісаць чуллівае пісьмо: кажуць, што Малахаў не толькі адказвае на гэтыя пісьмы, але і асабіста сустракаецца з аўтарамі пасланняў. Хутчэй за ўсё, сэрца тэлезоркі могуць заваяваць упэўненыя ў сабе інтэлектуалкі-кар'ерысткі, спартыўныя, падцягнутыя, з добрым загарам.

Хаця сам Малахаў у інтэрв'ю гаворыць, што знешнасць не так важная, галоўнае – каханне, тым не менш, жонкай ён марыць ганарыцца і выходзіць з ёй у свет. Таму ён не збіраецца жаніцца на гаспадыні, якую потым прыйдзецца схаваць на кухні ад запрошаных гасцей.

## Аляксей Мітрафанаў

Наступны "прынц" – палітычны дзеяч Аляксей Мітрафанаў. У сваё 39 гадоў ён ужо стаў правай рукой Уладзіміра Жырыноўскага, лічыцца ценявым міністрам замежных спраў ЛДПР.

Аднак напружае жыццё ў палітыцы не перашкаджае яму быць адным з галоўных "тусоўшчыкаў" Масквы. Перамяшчаецца выключна на чорным "Мерседэсе" ў суправаджэнні джыпа аховы, часта абедае ў "Нацыянале".

Цяпер Мітрафанаў разведзены, быў жанаты на тэлежурналістцы, парламенцкім карэспандэнце праграмы "Весці" Марыне Лілевялі. Ён добра адукаваны – закончыў прэстыжны факультэт Маскоўскага дзяржаўнага інстытута міжнародных адносін (знешняя эканоміка), таленавіты аратар, мае добрае пачуццё гумару.

Вельмі кантактны: можа знайсці агульную мову з усімі – ад спявачкі Наталлі Гулькінай да якога-небудзь міністра ці галоўнага ўрача раённай бальніцы, непрыхатлівы ў ядзе. У яго востры язык. А яшчэ ён актыўна падтрымліваў скандальны закон аб мнагажонстве, распрацаваны ЛДПР.



Сустрэць Аляксея Мітрафанава можна ў Дзяржаўнай Думе, на банкеце, у рэстаране гасцініцы "Нацыяналь", у крамлёўскім санаторыі ў Сочы.

Яму магчыма, падабаецца ўпэўненая, амбіцыёзная асоба, якой у сваю чаргу падабаецца Жырыноўскі і якая змажа заплюшчыць вочы на некаторыя дзівацтвы патэнцыяльнага кандыдата ў мужы.

## Аляксандр Шульгін

У шоу-бізнесе таксама ёсць дастойныя прадстаўнікі "жаніхоўскага клана". Напрыклад, самы ўдачны і запатрабаваны на сённяшні дзень аўтар музыкі і тэкстаў да песень Аляксандр Шульгін, да нядаўняга часу муж спявачкі Валерыі. Аляксандру 38 гадоў, ён веруючы, вегетарыянец, не спажывае напоі мацней за чай. Па паведамленнях СМІ, з'яўляецца адным з самых багатых дзеячаў у расійскім шоу-бізнесе. Валодае некалькімі кватэрамі ў элітных дамах сталіцы, іншай нерухомасцю. Таксама валодае кампаніямі, у тым ліку фірмай грамзапісу і музычным выдавецтвам.

Цікавы факт творчай біяграфіі Шульгіна, пра які чамусьці мала гавораць: калі пачуў дэмазапіс нікому тады невядомай групы "Мумий троль" адразу ж патэлефанаваў ім і папрасіў тэрмінова прыехаць у офіс. Пакуль яны ехалі, падрыхтаваў кантракт, які і быў тут жа падпісаны. Пасля запісу першага альбома групы, дыск з альбомам быў адпраўлены на радыёстанцыі і фірмы гуказапісу, якія пасля праслухоўвання ўсе як адзін выдалі рэзка адмоўныя рэцэнзіі. А ўжо праз некалькі



месяцаў група проста "ўзарвала" краіну і зайграла на ўсіх станцыях, якія да гэтага ставіць песні "МТ" ні ў якую не згаджаліся.

Аляксандр шмат чытае, таму з ім можна пазнаёміцца ў кніжных лаўках у аддзеле філасофіі і рэдкіх кніг, а акрамя гэтага, улічваючы прафесійныя інтарэсы, — у студыях гуказапісу. Каб не выпадковы разлад у сям'і, Шульгін бы не быў свабодным і не трапіў бы ў гэты спіс. Цяпер жа ва ўсіх "нявестаў" з'явіўся рэальны шанс "акруціць" патэнцыяльнага кандыдата ў мужы, пакуль былыя муж і жонка не памірыліся.

## Міхаіл Прохараў

І, нарэшце, прадстаўнік дзелавых колаў – Міхаіл Прохараў, старшыня савета дырэктараў і прэзідэнт Расбанка. Самы высокі расійскі фінансіст – рост 2 метры. Здольны на экстравагантныя пастункі. Сам Прохараў у вузкім коле любіць паўтараць, што ў сямейных адносінах не мае патрэбы і жэніцца толькі ў 42 гады (цяпер яму 38).

Міхаіл Прохараў не скупы, здольны на шырокія жэсты ( у прэсе доўга мусіраваўся наступны факт: даведаўшыся, што аднаму з прыяцеляў тэрмінова патрабуецца дарагая аперацыя – аплаціў усе расходы і сам знайшоў клініку). Аднак з'яўляецца кар'ерыстам з поўнай адсутнасцю сантыментаў.

Па чутках, фінансіст валодае раскошнай кватэрай у Крылацкім, якая займае цэлы паверх. Таксама, па паведамленнях некаторых інфармацыйных крыніц, з'яўляецца ўладальнікам некалькіх спартыўных машын і прадметаў раскошы, напрыклад, наручных гадзіннікаў "Gerald Genta", якія напярэдні ацэньваюцца ў 1,5 млн. долараў. Па праўдзе кажучы, наколькі ён багаты, да цяперашняга часу нікому не вядома, але Прохараў можа дазволіць сабе ўсё.

Прохараў даступны і публічны не больш, чым Штырліц, хаця зрэдку ён усё ж такі з'яўляецца на афіцыйных і неафіцыйных прыёмах. Але варта памятаць, што Прохараў ненавідзіць журналістаў і раздражняецца толькі пры адным упамінанні аб прадстаўніцай другой старажытнай прафесіі. Таксама ён ненавідзіць жанчын, у якіх страсць да нажывы. Але ўжо добра тое, што ў фінансіста няма ідэалу жаночай прыгажосці, па асабістым прызнанні, яму падабаюцца розныя жанчыны. Так што ў цудоўнай палавіны чалавецтва ёсць яшчэ 4 гады, каб "злавіць" яго на прыёме, пазнаёміцца, даць зразумець, што вамі рухае каханне, а не



жаданне дабрацца да яго капіталаў – і выйсці замуж.

izwestia.ru

■ ФУТБОЛ, ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

# Засталіся сярод мацнейшых

**3 лістапада. Маладзечна-2000 - Тарпеда-МАЗ 0:0**

**Суддзя** - Канстанцін Дайлід, 500 гледачоў.

**«Маладзечна-2000»:** Рубацкі, Азява, Дрозд, Мятліцкі, Макрыцкі (Смірноў, 89), Лявончык, Карпіленка, Сысой, Дараховіч, Сідарэнка (Грыхуцік, 43, Альховік, 72), Азаронак(кап.).

**Запасныя:** Сцепановіч, Вайда, Калінюк, Антановіч.

**«Тарпеда-МАЗ»:** Ясковіч, Пінін, Навумаў (кап.), Кірыльчык, Бароўскі (Вяжэвіч, 77), Бесталанны, Панкавец, Міхалёў (Доўнар, 46), Мігас (Галухін, 46), Дзямідчык, Чаранкоў.

**Запасныя:** Шанталосаў, Бычкоўскі, Кабельскі, Ятчук.

**Лепшыя:** Дараховіч (чацверты раз у сезоне), Дрозд, Рубацкі, Сысой, Азаронак (усе тэрці раз), Лявончык (другі).

Перамога падапечных **Аляксандра Кісценя** ў мінулым туры над галоўным канкурэнтам за месца пад сонцам «Лакаматывам-96» не давала канчатковага адказу, хто ў гэтым сезоне стане лішнім. Віцебляне у гэтым жа туры прымала «Зорка». Апошняя скандальныя падзеі з «Белшынай» ставілі пад сумненне зыход паядынку ў Мінску.

На іншых спадзявайся, а сам сябе выручай - з такой думкай выйшлі маладзечанцы супраць каманды, перамога якой прыносіла клубу бронзавыя медалі.

### Гульня

Роўны матч, дзе цяжка было вызначыць аутсайдэра і аднаго з лідэраў першынства. Па колькасці галявых момантаў перамагаць павінныя былі гаспадары. Акрамя не самых небяспечных выстралаў з-за межаў штрафной, госці аднойчы праверылі на трываласць штангу «рамкі» **Рубацкага**. Пасля падачы вуглавога ўдар Пініна ўзяў на сябе на лініі варот **Макрыцкі**, а моцны выбух на дабіванні экс-маладзечанца Міхалёва прыйшоўся ў штангу.

Да гэтага **Мятліцкі** вывеў тэт-а-тэт з Ясковічам **Сідарэнку**, але Сяргей у апошні момант прабіў міма. Пасля нападаючы не здолеў замкнуць прастрэл з вуглавога **Карпіленкі**. Яшчэ ў першым тайме Лявончык апярэдзіў абаронцаў і варатара мінчан і, перакідваючы апошняга, трапіў у перакладзіну.

Другая палова гульні прайшла без асаблівай вастрыні каля варот гуляючых каманд. Макрыцкі аддаваў добры пас Грыхуціку, здавалася, нападаючы павінен быў забіваць у пустыя вароты. Абаронца Кірыльчык у барацьбе здолеў падставіць нагу і выратаваў свой клуб.

«Тарпеда-МАЗ» увесь сезон дабываў перамогі на апошніх хвілінах сустрэчы. Так было нават у першым крузе з «Маладзечна» на стадыёне ў Мінску, калі дзве памылкі Рубацкага ў апошнія пяць хвілін зрабілі лік 3:2 замест пераможных 1:2. Такое магло здарыцца і цяпер.

Сяргей Дзямідчык, які некалі гуляў за «Маладзечна», быў самым заўважным у стане мінчан. Паўабаронца выдатным пасам знайшоў галаву Чаранкова, які забіў гол. Арбітр Дайлід свістком спыніў непамерную радасць гасцей - аўтар забітага мяча ў барацьбе парушыў правілы супраць Рубацкага.

У канцоўцы матча Карпіленка падаваў вуглавыя і выконваў штрафныя - у «Тарпеда» не было нават шанцу перайсці за цэнтр поля.

### У гэты час

У нядзелю быў дзень «Маладзечна-2000». «Зорка» не здавала гульню і проста грамілa, шчыра кажучы, слабых чыгуначнікаў. Салігорскі «Шахцёр» дома не прайграваў больш за два гады - «Гомель» не стаў выключэннем і прайграў.

Маладзечанцы выканалі задачу другога круга - засталіся ў вышэйшай лізе. «Тарпеда-МАЗ», які за два туры да канца прэтэндаваў на першае месца, не трапіў нават у прызёры.

### Каментарый

Галоўны трэнер ФК «Маладзечна-2000» Аляксандр Кісцень:

- Зрабілі ўсё, што маглі. Задача выкананая. Што будзе далей - пакуль не ведаю.

Галоўны трэнер «Тарпеда-МАЗа» Сяргей Бароўскі:

- Каментарый? Лік 0:0 - чацвертае месца. Вось і ўсё.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**




**Варатар "Маладзечна-2000" Аляксей Рубацкі ў матчы з мінскім "Тарпеда-МАЗам" не пусціў мяч у вароты. Да гэтай гульні маладзечанцы прапускалі у 24-х матчах запар. Нарэшце гэтая рэкордная для ўсіх чэмпіянатаў незайздросная серыя перарвалася.**

Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

### Статыстыка «Маладзечна-2000»

Рэйтынг па версіі "РГ": Сцепановіч – 5 балаў; Дараховіч, Макрыцкі, Сарасек – па 4; Азаронак, Дрозд, Рубацкі, Сідарэнка, Сысой – па 3; Лявончык, Акуліч, Мігас, Міхалёў, Рапецкі – па 2; Карпіленка, Мятліцкі – па 1.

Галы: Сідарэнка – 4; Дараховіч – 3; Азаронак, Макрыцкі, Сысой, Міхалёў, Сарасек – па 2; Мятліцкі, Тартоўскі, Акуліч, Бычкоўскі, Рапецкі, Вавілаў (Славія, аўтагол) – па 1.

Матчы: Макрыцкі – 26; Дараховіч, Дрозд, Сысой – па 22; Сідарэнка – 18; Азаронак – 17;

Сцепановіч – 17 (-38); Карпіленка, Лявончык, Смірноў – па 15; Тартоўскі – 14; Акуліч, Мігас, Сарасек – па 13; Азява, Пятроўскі, Бычкоўскі, Міхалёў, Рапецкі – па 12; Мятліцкі, Мураўейнікаў – па 11; Рубацкі – 11 (-21); Грыхуцік – 9; Альховік – 4; Кандраценя, Млечка – 2; Калянюк – 1.

### Вынікі 26 тура

Шахцёр – Гомель 3:1, Тарпеда – Белшына 4:0, Днепр-Трансмаш – БАТЭ 1:4, Зорка-ВА-БДУ – Лакаматыў-96 4:1, Дынама (Мн) – Славія 6:3, Дынама (Бр) – Нёман 1:1.

Выніковая табліца (пасля назваў каманд дадзены вынікі матчаў "Маладзечна-2000" супраць іх: спачатку – дамашнія, потым – на выездзе).

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1-2. БАТЭ | 1:3 0:4 | 18 | 2 | 6 | 51-20 | 56 |
| 1-2. Нёман | 0:1 0:2 | 17 | 5 | 4 | 47-20 | 56 |
| 3. Шахцёр | 0:2 1:3 | 15 | 6 | 5 | 41-23 | 51 |
| 4. Тарпеда-МАЗ | 0:0 2:3 | 15 | 6 | 5 | 30-16 | 51 |
| 5. Тарпеда | 0:2 0:2 | 13 | 4 | 9 | 38-27 | 43 |
| 6. Гомель | 0:3 0:5 | 13 | 4 | 9 | 46-33 | 43 |
| 7. Дынама (Мн) | 0:1 1:4 | 12 | 6 | 8 | 44-28 | 42 |
| 8. Белшына | 2:3 2:3 | 12 | 4 | 10 | 44-38 | 37** |
| 9. Днепр-Трансмаш | 1:2 1:3 | 10 | 6 | 10 | 38-37 | 36 |
| 10. Дынама (Бр) | 1:3 1:2 | 8 | 8 | 10 | 25-26 | 32 |
| 11. Славія | 2:2 0:3 | 6 | 6 | 14 | 38-61 | 24 |
| 12. Зорка-ВА-БДУ | 1:1 1:0* | 4 | 6 | 16 | 28-48 | 18 |
| **13. Маладзечна-2000** | **#####** | **3** | **3** | **20** | **23-59** | **12** |
| 14. Лакаматыў-96 | 3:1 3:1 | 3 | 0 | 23 | 20-77 | 9 |

* Гасцявы матч супраць "Зоркі-ВА-БДУ" праходзіў у Маладзечне

** З "Белшыны" зняты 3 ачкі за неаплату пераходаў двух ігракоў, што прыйшлі ў клуб з мінскага "Дынама".

Заўвага. Калі прэтэндэнты на першае месца набралі роўную колькасць ачкоў, то, згодна з рэгламентам, чэмпіён краіны вызначыцца ў перайгроўцы на нейтральным полі.

Бамбардзіры: Ю. Мархель (Тарпеда) – 19; Стрыпейкіс (Белшына) – 18; Нікіфарэнка (Шахцёр) – 12 галоў.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ БІЛЬЯРД

# Фінал – у снежні

**У Жодзіне завяршыўся апошні з рэйтынгавых турніраў па "пірамідзе".**

Маладзечанец **Іван Раковіч** у Жодзіне спыніў свой шлях, як і дома, у чвэрцьфінале. Ён саступіў 2:5 брэстаўчаніну Сяргею Братчуку, свайму даўняму нязручнаму супернiку. Той у фінале прайграў 4:6 Ігару Купаве са Слоніма.

У рэйтынгу Раковіч заняў выніковае 7 месца з 990 ачкамі. Прапануем чытачам "РГ" шасцёрку мацнейшых: 1. Шчаўкун (Мінск) – 1580. 2. Жылкін (Мінск) – 1540. 3. Братчук (Брэст) – 1440. 4. Маркацынскі (Баранавічы) – 1230. 5. Купава (Слонім) – 1215. 6. Лобач (Мінск) – 1130.

У снежні пройдуць фінальныя спаборніцтвы сярод 16 лепшых спартсменаў па выніках 5 рэйтынгавых турніраў.

Зараз нацыянальная зборная непасрэдна рыхтуецца да чэмпіянату Еўропы, які ў бліжэйшы час прыме беларуская сталіца. Раковіч уваходзіць у склад зборнай, але працаваць у Стайках у рэжыме трохразовых трэніровак разам з маладымі партнёрамі часу не заўсёды хапае. Ёсць і асноўная работа, ёсць справы і ў Маладзечне ў клубе "Караліна". Дарэчы, тут на бягучым тыдні праходзіць невялікі ўнутрыгарадскі турнір. У снежні, магчыма, будзе выстаўлена каманда на рэспубліканскі турнір сярод клубаў.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ СПАРТАКІЯДА

# Смаргонцы - другія

**ГРОДНА. Прайшлі традыцыйныя спаборніцтвы ў рамках абласной спартакіяды працоўных.**

Прадстаўнікі Смаргонскага раёна ўжо даўно выступаюць у мацнейшай групе з шасці самых лепшых у спартыўным сэнсе тэрыторый. Сёлета яны занялі другое месца, саступіўшы толькі Кастрычніцкаму раёну з аблцэнтра.

Ездзілі 50 чалавек па сямі відах спорту. Сталі першымі ў лёгкаатлетычнай эстафеце, у лёгкаатлетычным тэсце Купера і ў міні-футболе. Другімі былі жанчыны-стрытбалісткі, трэцімі – іх калегі-мужчыны.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## Табло

■ ФУТБОЛ, ДУБЛЬ

2 лістапада. Маладзечна-2000 (дубль) – Тарпеда-МАЗ (Мінск, дубль) 0:7 (0:3)

Галы: (26), (36), (38), (51), (62), (66), (72).

"Маладзечна-2000" завяршыла чэмпіянат на апошнім, 14 месцы, набрала 12 ачкоў, столькі ж, як і асноўны склад.

■ ФУТБОЛ, ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

Склад "Маладзечна-2000" ў матчы з "Лакаматывам-96": Рубацкі, Пятроўскі (Альховік, 89), Дрозд, Мятліцкі, Макрыцкі, Лявончык, Карпіленка, Сысой, Дараховіч, Сідарэнка, Азаронак (к).

Папярэджанні: Азаронак, Дараховіч (абодва – пяты раз у сезоне), Пятроўскі (чацверты), Сідарэнка (трэці), Альховік (першы).

Лепшыя: Макрыцкі, Дараховіч, Сідарэнка, Азаронак, Мятліцкі.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ НА ГЭТЫМ ТЫДНІ ГУЛЯЮЦЬ

9 лістапада, 14-00, Маладзечна, гарадскі стадыён

Суперкубак Маладзечна

Пуцеец (Маладзечна) – ВРУП "Беразінскае"

## ВІНШАВАНКІ

Віншуем з залатым вяселлем **Веру Ільінічну і Уладзіміра Сямёнавіча Ешчанкаў**! Жадаем сямейнага дабрабыту, шчасця, здароўя. *Суседзі.*

**Уладзіміра Іванавіча Качанава** віншую з днём нараджэння! Жадаю здароўя, шчасця, поспехаў у справах, бадзёрасці. *З любоўю Пілія.*

Віншуем з днём нараджэння **Зою Аляксандраўну Балуш**! Здароўя, зямных даброт! *Калектыў дз/с №5 з Вілейкі.*

Віншуем **Андрэя і Вольгу** са шлюбам! Няхай будзе ваша жыццё сагрэта каханнем, радасцю, цяплом. *Сям'я Яжэўскіх.*

З 16-годдзем **Сяргея Махіна**! Пусть ненастье и горе обойдут стороной, только радости море и мы рядом с тобой. *Мама, сястра.*

**В. Ф. Матузову**. З днём нараджэння! Пусть ваша жизнь счастливой будет, удача улыбнуться не забудет! *Цэх №12.*

Віншуем **Ульянушку Антановіч** з днём нараджэння! Расці на радасць здаровай, прыгожай і шчаслівай. *Палінка Клімовіч і яе бацькі.*

**Наталлю Радыну** віншую з днём нараджэння! Шчасця, моцнага здароўя і вялікага кахання! *Сяброўка Ганна.*

Віншуем з днём нараджэння **Дзіму Палаза**! Жадаем табе моцнага здароўя, удачы і верных сяброў. *Мама, тата, брат і Таня.*



■ ІМЯНІНЫ

**8 лістапада**
**Праваслаўныя**: Дзмітрыя.
**Каталіцкія**: Віктара, Готфрыда, Клаўдзіуша, Северына.
**9 лістапада**
**Праваслаўныя**: Аляксандры, Елізаветы, Андрэя, Марка.
**Каталіцкія**: Тодара, Урсына.
**10 лістапада**
**Праваслаўныя**: Праскоўі, Арсенія, Дзмітрыя, Максіма.
**Каталіцкія**: Андрэя.
**11 лістапада**
**Праваслаўныя**: Ганны, Марыі, Абрама.
**Каталіцкія**: Марціна.
**12 лістапада**
**Праваслаўныя**: Алены, Анастасіі, Зіновіі, Арцёма.
**Каталіцкія**: Вітольда, Віктара.
**13 лістапада**
**Праваслаўныя**: Нікадзіма, Нарцыса, Спірыдона, Стахія.
**Каталіцкія**: Бенядыкта, Міkалая, Станіслава.
**14 лістапада**
**Праваслаўныя**: Ульяны, Дзям'яна, Кузьмы, Якава.
**Каталіцкія**: Андрэя, Ваўжынца, Эміля, Юзафа.

■ КОНКУРС

# Жывая душа прыроды

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёння ў дзіцячым садзе №6 падвялі вынікі фотаконкурсу "Жывая душа прыроды".**

Конкурс – гэта дамашняе заданне для бацькоў і дзяцей на лета. Трэба было зрабіць цікавы сюжэт у лесе, парку, на лузе, дачы ці падворку ў вёсцы. Адгукнулася 10 сем'яў. Яны прынеслі 14 фотакартак. Усе ўвойдуць у альбом для гісторыі дзіцячага сада.

Кожная сям'я атрымае фотаальбом.

**Ірына РАБУШКА.**



**"Смачны грыбочак" трымае ў руках Валодзя. Гэтая фотакартка на конкурс ад сям'і Мароз.**



**Сяброўскі "Асенні пацалунак" брата і сястры Аліны і Антона. Фотаздымак прынесла на конкурс сям'я Бялько.**



**"Дакрануцца да шышкі" – гэты фотаздымак зрабіла для конкурсу сям'я Мацкевічаў. На ім – Аліна.**

■ НАДВОР'Е

## Халодны кастрычнік

**МЯДЗЕЛ. На Нарачы сярэдняя тэмпература паветра ў кастрычніку была на 3,4 градуса ніжэй, чым летась. А вось ападкаў выпала ў два з паловай разы больш за норму.**

Паводле доўгатэрміновых прагнозаў, лістапад будзе халаднейшы за норму на 1 градус. Мяркуецца, што асабліва памерзнем у першай дэкадзе месяца, калі сярэдняя тэмпература паветра будзе на 4 градусы менш за норму.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ВЫСТАЎКІ

## Роспіс па шоўку

**АШМЯНЫ. Упершыню ў Гальшанскім філіяле мастацкага нацыянальнага музея праходзіць выстаўка батыкі – роспіс па тканіне. 49 работ роспісу па шоўку выставілі беларускія мастачкі Людміла Налівайка і Алена Лось. Абедзве – кандыдаты мастацтвазнаўства. Мастачкі працуюць у розных стылях.**

У Л.Налівайкі філасофскія работы, а ў А.Лось – рэалістычныя і рамантычныя. Вельмі цікавы яе аўтапартрэт "Сакалінае паляванне", які напісаны ў сярэдневяковым стылі.

На выставу прыязджаюць з усёй Беларусі, а таксама іншаземцы.

**Ірына РАБУШКА.**

## Кінатэатр «Радзіма»

**8-10 лістапада**

**"Уладар кольцаў: брацтва кальца"**, ЗША, 2 серыі – у 15.00, 18.00 і 21.00.

2-і паверх, БАР. ДЫСКАТЭКА. У 21.00 у пятніцу, суботу і нядзелю – для моладзі. У дні асенніх канікулаў у 17.00 штодзённа для ўсіх школьнікаў.

■ ТВАЁ ІМЯ

# Марыя – спалучэнне строгасці з сардэчнасцю

**Імя паходзіць ад старажытнаяўрэйскага імені Марыям, што па адной версіі азначае "тая, ад якой выракліся", па другой – ад слова "сумная". Праваслаўная традыцыя перакладае імя як "пані".**

У гэтым імені дзіўным чынам строгасць спалучаецца з сардэчнасцю, а захапленне з некаторай адхіленасцю. Бывае, гэта прыводзіць да развіцця ў яе супярэчлівага характару, аднак часцей нейкі адзін з гэтых бакоў атрымлівае значную перавагу з-за выхавання і ўмоў жыцця. Немалую ролю могуць адыграць ў станаўленні Машынага характару такія вобразы, як хрысціянская Дзева Марыя і нават не менш вядомая на Русі вясёлая і гаваркая дзяўчынка Маша з рускіх народных казак. І сапраўды, Маша звычайна адрозніваецца прыкметнай рухавасцю, не пазбаўлена пачуцця гумару, але пры гэтым у глыбіні яе душы можа паступова выспяваць значнае захапленне, якое яна, хутчэй за ўсё, будзе старацца скрыць ад навакольных.

Вельмі часта глыбінная душэўнасць Марыі прымушае яе выбіраць гуманныя прафесіі, такія як педагогіка ці медыцына. Тут сапраўды спалучэнне душэўнай цеплыні і строгасці можа аказацца вельмі станоўчым. Аднак, якая б ні была яе цяга да сваёй прафесіі, яна не зможа адцягнуць увагу Марыі ад клопатаў пра сваю ўласную сям'ю. Яна цудоўная гаспадыня і ўсё жыццё стараецца прысвяціць дзецям. З гэтых прынцыпаў яна будуе свае адносіны з мужам.

Інакш складваецца Машына жыццё, калі яна не навучылася хаваць сваю захапляльную натуру ад навакольных. У гэтым выпадку лёс у яе можа быць даволі бурны, але цікавы.

Але не трэба вялікага значэння надаваць знешняму вобліку Марыі, бо за строгасцю і за бесшабашнай весялосцю часцей за ўсё скрываецца яе дабрыня і душэўнасць. Безумоўна, яе сардэчнасці хопіць і на навакольных, толькі не трэба чапаць таго, што для яе святое.

## Купон 45

рэгіянальная газета

**да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.**

ТЭКСТ

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

### Звярніце ўвагу

**Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!**
**Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!**

■ ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

## Каша гарбузовая

Спелы гарбуз ачысціць ад лупін і насення, нарэзаць невялікімі кубікамі, заліць гарачай вадой (2 шклянкі) і варыць каля 10 хвілін. Затым дадаць соль, цукар, усыпаць прамытае проса. Калі вада амаль выпарыцца, уліць гарачае малако і варыць да загушчэння. Пакласці ў кашу масла, перамяшаць, паставіць ў негарачую духоўку на 20-30 хвілін.

**600 г гарбуза, 1 шклянка проса, 3 шклянкі малака, 1 ст. лыжка цукру, 1 ст. лыжка сметанковага масла, соль.**

■ КОНКУРСЫ

## Зарабі білеты ў кіно

Прывітанне, шаноўныя!

Правільны адказ на мінулае пытанне – трус Бакс Бані не з'яўляецца героем дыснееўскіх мультфільмаў. Віншую сям'ю **Лябедскіх** і **Святлану Літвінаву**, якія далі правільны адказ! Запрашаю ў рэдакцыю па білеты ў кіно.

Наступнае заданне. У 1515 годзе храніст Вільгельм Рэн запісаў гісторыю пра тое, як адзін гараджанін Пфайфер ледзь не застрэліў дзяўчыну. Паказваў ёй сваё новае ружжо і выпадкова зачапіў спускавы курок. Грымнуў выстрал. Здавалася б, выпадковае здарэнне – усім вядома, што нават незараджанае ружжо і тое раз у год страляе. Ды і дзяўчыну не зачапіла. Але ў хроніку ўносілі толькі запісы аб важных ці надзвычайных фактах. Чым гэтая гісторыя заслужыла ўвагу храніста?

Тэлефануйце 69667 у Маладзечне (апошні тэрмін – 12 лістапада 15-00) і прыходзьце па запрашальны білет на дваіх на фільм у кінатэатры "Радзіма".

**Юрый КАРПІЦКІ.**

